

Газета заснавана ў 1938 годзе.
Выходзіць з 1997 года.

# Газета Слонімская

№ 9 (9). Слонім. 1 — 7 жніўня 1997г. Незалежны грамадска—палітычны штотыднёвік Кошт свабодны

ВЁСКА

## ПАЧАЛАСЯ БІТВА ЗА ХЛЕБ



**Усе 19 гаспадарак раёна пачалі жніво. Сёлета сялянам трэба будзе ўбраць збожжавыя і бабовыя на плошчы 28.206 тысяч гектараў.**

Калі ўсё будзе добра, то аграрнікі плануюць сабраць амаль 80 тысяч тон збожжа. Такім чынам, на кожнага слонімца прыпадзе, прыкладна, па 950 кілаграмаў жыта, пшаніцы, ячменю і іншага зерня.

Аднак, мусіць некаторыя гаспадаркі маюць вялікую патрэбу ў рабочай сіле. Бо невыпадкова 28 ліпеня некалькі калгасных старшынь асабіста сустрэліся з беспрацоўнымі гараджанамі і запрасілі іх папрацаваць на хлебных палях. Ахвотнікаў знайшлося мала. Тады дырэктар мясцовага цэнтра занятасці насельніцтва Ганна Мазюк, якая таксама прысутнічала на сход-дзе, папярэдзіла запрошаную публіку, што , калі хто не пагодзіцца запісацца ў калгаснікі, то можа пазбавіцца дапамогі па беспрацоўю.

Дарэчы, па стану на 1 ліпеня ў Слоніме афіцыйна беспрацоўнымі лічылася каля тысячы чалавек. А для вёскі – гэта сіла.

В.Я.

Здарэнні

## Няшчасны выпадак

**Дзевяцігадовы Дзмітрый Сідорык моцна параніўся падчас гульняў на будоўлі новага дома, што на вуліцы Ф. Скарыны.**

Дзеці арганізавалі на будоўлі «пляцоўку для гульняў». Бегаючы там, Дзмітрый упаў і стукнуўся галавой аб бетонную пліту. У выніку, хуткая дапамога яго адвезла ў рэанімацыю. На той час медыкі канстатавалі яго стан здароўя, як цяжкі.

Уладзімір Дадым, інжынер па тэхніцы бяспекі БУ-187, якое ўзводзіць дом, папрасіў праз газету яшчэ раз нагадаць бацькам, каб яны больш пільна сачылі за дзецьмі ў час канікулаў.

А.М.

# Што яны выраблялі!

**Сяргей ЁРШ**

**Жыхар Слоніма, 69-гадовы Васіль Струпавец, у Якімавічах паказваў мне хату, дзе «партызаны» у красавіку 1943 года расстралялі яго сям'ю. У гэты момант да нас падыйшла старая жанчына. Я запытаўся ў яе пра партызанку.**

— Што яны выраблялі! Рабавалі нас кожны Божы дзень, – гаворыць 80-гадовая Яўгенія Афанасьеўна Швайдзюк. — У нашай вёсцы «партызаны» забілі 45 вяскоўцаў. Толькі некаторыя пахавалы па-людску, на могілках. Большасць людзей вазілі ў лес, там забівалі, там і закопвалі... Маю сястру Надзею забілі, пакінулі пяць яе дзяцей сіротамі. Каб забілі, дык не, яе па-зверску зарэзалі. 70 ран ёй зрабілі – паролі кінжаламі. Грудзі адрэзалі, язык, вушы.. А да таго яе па чарзе гвалтавалі... Адкуль я гэта ведаю? Сын Надзі там быў. Калі «партызаны» прыехалі на возе ў вёску і забралі Надзю, ён пабег за імі ў лес. Яны прымушалі яго, каб ён памагаў ім родную маці рэзаць! Сярожа сказаў ім: «Расстраляйце мяне, а я рэзаць не буду». Дык «партызаны» заставілі яго ім кроў з рук змываць... Пасля я пытаюся ў яго: «Сярожа, а дзе мама?» «А я не знаю, я не бачыў мамы», – адказвае. Гэта пазней ён расказаў усё людзям.

*«Раніцай мы прыйшлі ў іх хату... На ложку ляжалі дзве дзяўчынкі. Мазгі і кроў былі ўсюды: на столі, на сценах... Маці на падлозе ляжала. Гаспадар, які пераходзіў цераз парог, там і застаўся ляжаць. А бабуля на печы была — яе там з нагана застрэлілі...»*

**Асведчанне**

Мы, жыхары вёскі Якімавічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці, сведчым, што ў гады Другой сусветнай вайны злачынствы над нашымі аднавяскоўцамі здзяйсняў Іван Зайцаў, камандзір савецкага партызанскага атрада імя Панамарэнкі, і яго падручныя: Бухарэўскі, Азановіч, Багуслаўскі ды іншыя. Ад рук гэтых катаў загінула каля 50 нашых землякоў, якіх па-зверску катавалі, расстрэльвалі, кідалі жывымі ў калодзеж і палілі ў хатах.

21.07.1997 г.

Жыхары вёскі Якімавічы:

Я потым даведалася, што маю сястру рэзаў Аляксандр Г. па мянушцы "Шляхта", які цяпер жыве ў нашым раёне. Яму, быццам бы, загадалі гэта зрабіць па прыгавору за тое, што Надзя прадавала немцам малако. А што ёй заставалася яшчэ рабіць, калі на руках было пяць дзяцей і іх трэба было карміць. Дарэчы, дазвол на продаж яна атрымала ад самога камандзіра Зайцава.

(Працяг на стар. 2)

**Сёння мы друкуем матэрыял Сяргея Ярша «ШТО ЯНЫ ВЫРАБЛЯЛІ!» з невялікімі змяненнямі, якія ранней быў змешчаны на старонках газеты «Наша Ніва» (10.03.97 г.).**

Афіцыйна

## Дзяржстрах абяцае сваю пенсію

З пачатку гэтага года Слонімскае аддзяленне Белдзяржстраху выплаціла жыхарам горада і раёна па страхавым полісам 389 млн. рублёў. Тым часам за ўвесь 1996 год адпаведных выплаты склалі 500 млн. рублёў.

Пра гэта карэспандэнту газеты паведаміў дырэктар мясцовага аддзялення Белдзяржстраху Леанід Астапенка. Ён сказаў, што на сённяшні дзень заключана 17 тысяч дамоў па страхаванню фізічных і юрыдычных асобаў. Аднак, на яго думку, гэта невысокі ўзровень страхавання насельніцтва. Таму многія людзі, якія пацярпелі ад стыхійных бедстваў і па іншых прычынах, застаюцца без страхавой абароны. Большасць людзей пакуль страхуюць будынкі, маёмасць, жывёл і транспарт. Гэтыя віды страхавання займаюць 80 працэнтаў у структуры страхавых узносаў. А вось страхаваць жыццё і здароўе людзі не спяшаюцца. Па меркаванню Леаніда Астапенкі, гэта адбываецца па той прычыне, што з-за інфляцыі і спаду эканомікі грамадзяне страцілі давер да доўгатэрміновых відаў асабістага страхавання. Акрамя таго, большасць слонімцаў з-за беднасці не можа штомесячна плаціць пэўную суму на страхавы ўзнос.

Праўда, як адзначыў спадар Астапенка, нядаўна парламент рэспублікі ўнёс змены ў заканадаўства, якое дазваляе прадпрыемствам і арганізацыям затраты па страхаванню сваіх работнікаў адносіць на сабекошт выпускаемай прадукцыі. Раней гэтыя затраты выдаткоўваліся з прыбытку, якога сёння многія прадпрыемствы проста не маюць. Цяпер, калі прадпрыемства паклапоціцца, работнік можа быць забяспечаны страхавой абаронай. Больш таго, гэта дазволіць чалавеку фарміраваць свой дадатковы пенсіённы фонд, незалежны ад дзяржаўнай пенсіі. У выніку, калі чалавек пойдзе на пенсію, то будзе мець дзве пенсіі: адну – дзяржаўную, другую – па лініі Белдзяржстраху.

«Неабходнасць страхавання дадатковай пенсіі ў Беларусі грунтуецца яшчэ і на тым, што па прагнозах спецыялістаў, праз 10 гадоў у краіне на аднаго пенсіянера будзе прыходзіцца адзін працуючы. У такіх умовах цяжка спадзявацца толькі на сістэму дзяржаўнага пенсіённага забяспячэння», – лічыць Леанід Астапенка.

Анатоль МІРСКІ

ГОРАД

## СТАРАСЦЬ - НЕ РАДАСЦЬ

**Цяпер у Слоніме жыве каля трохсот адзінокіх састарэлых, якім патрэбна дапамога.**

...Пажылая жанчына кінула на мяне недаверлівы позірк. Яе вочы былі поўныя болю і адчаю. Пражыўшы 50 гадоў у Слоніме, 32 з іх адпрацаваўшы ў гандлі, яна не зарабіла сабе нават на жыллё.

Цяпер гэтая жанчына жыве ў будынку аддзялення сацыяльнай дапамогі, што знаходзіцца на вуліцы 17-га верасня, дзе знайшлі прытулак чатыры жанчыны. Кожная атрымала асобны пакой, куды яны перавезлі сваё сціплае багацце. На невялікай куханьцы жанчыны гатуюць сабе ежу, вечары праводзяць у гасцёўні, дзе стаяць тэлевізар і некалькі мяккіх крэслаў.

Жанчыны вызвалены ад уплаты за камунальныя паслугі, а пенсіі яны цалкам трацяць на свае патрэбы. На ўтрыманне гэтых састарэлых гарадскі бюджэт трацiць у сярэднім 4 млн. рублёў у месяц.

Як паведамілі карэспандэнту газеты ў аддзеле сацыяльнай дапамогі на даму, 29 работнікаў дагледзаюць 266 адзінокіх састарэлых.

Святлана КУПІЧ

## АД ВЯСЁЛАЙ ДА ПАРАХАВОЙ - АДЗІН КРОК

**Сёння ў нашым горадзе каля 140 вуліц.**

Амаль трэць іх носіць імёны дзяржаўных, партыйных і ваенных дзеячаў, партызан, пісьменнікаў, паэтаў, навукоўцаў. Толькі невялікая частка гэтых людзей мае нейкае дачыненне да Слоніма.

Мусіць, тыя ж Маякоўскі і Някрасаў, Чкалаў і Кутузаў, Талстой і Мендзялееў, нават ніколі і не чулі пра Слонім. Дзіўна і тое, што адна з вуліц носіць імя савецкага дыпламата Пятра Войкава. Таго самага, які ўдзельнічаў у забойстве царскай сям'і.

Астатнія вуліцы маюць гістарычныя, геаграфічныя і іншыя назвы. Існуе шэраг вуліц з прыгожымі назвамі, як Сонечная, Зялёная, Вішнёвая, Зорная, Вясёлая, але недзе побач з імі затаілася таямнічая Парахавая вуліца, назоў якой выклікае самыя розныя асацыяцыі...

«Свае» вуліцы ў Слоніме маюць і тры жанчыны - партыйная актывістка Ганна Кароль, радыстка Клара Давідзюк і падпольшчыца Вера Харужая. Усе яны трагічна загінулі.

Андрэй ТУРУК

ХРОНІКА

Яркія шыльды пачалі з'яўляцца на крамах нашага горада. Але, на жаль, усе яны на рускай мове, хаця згодна апошняй Канстытуцыі, дзяржаўнаю мовай у нас з'яўляецца беларуская.

26 ліпеня ў Мінску адбыўся 2-гі з'езд рабочых Беларусі. У яго рабоце прынялі ўдзел 195 дэлегатаў з 34 гарадоў і раёнаў рэспублікі, якія прадстаўлялі розныя грамадскія рухі і партыі. У рабоце з'езда ўдзельнічалі і прадстаўнікі Слонімшчыны Віктар Герасімчык і Міхаіл Сідарау.

На мінулым тыдні вядомы ў Бельгіі фармацэўт Лаўрэн Клыбік наведаў Слонімшчыну. Наш зямляк гасцяваў у сваіх сваякоў у вёсцы Чамяры, сустрэўся з журналістамі нашай газеты. На пытанне, як сябе ён адчувае на роднай зямлі, спадар Клыбік адказаў: «Быць дома – гэта вялікае шчасце».

# Што яны выраблялі!

Шмат фактаў злачынстваў «партызан» запісаў я ў той вечар. Запісаў і прозвішчы тых, хто страляў людзей (некаторыя яшчэ жывуць), а таксама іх палюбоўніц («сувязных»), якія падказвалі, каго трэба паставіць да сценкі.

Васіль Струпавец, які цудам выжыў падчас расстрэлу яго сям'і, распавёў мне пра той красавіцкі дзень 1943 года:

– Я ведаю гэтых «партызанаў», бо мы, падлеткі, іх кармілі, употайкам ад бацькоў. Спачатку яны хаваліся ў нас то ў стозе, то ў гумне. А на пачатку 1943-га яны пачалі па вёсках ездзіць і ўжо не пыталі, а самі забіралі ў людзей, што хацелі. Заўсёды п'яныя былі, і камсамолка нейкая з імі, усё з вінтоўкаю хадзіла...

Першую выбілі сям'ю Мікалая Струпаўца – 5 чалавек. У яго скуранку патрабавалі, што ён з Францыі прывёз (нехта сказаў ім пра яе, але ж скуранку Струпавец ужо прадаў)... Раніцай мы прыйшлі ў іх хату... На ложку дзве дзяўчынкі ляжалі. Мазгі і кроў былі ўсюды: на стале, на сценах... Маці на падлозе ляжала. Гаспадар, які пераходзіў цераз парог, там і застаўся ляжаць. А бабуля на печы была – яе там з нагана застрэлілі... (Пасля вайны ў хаце забітых Струпаўцоў улады зрабілі клуб, дзе паказвалі кіно, танцавалі, гралі... Дзікунства!— С. Ё.)

Ну, далей наша чарга прыйшла... Гэта быў чацвёрты дзень Пасхі. Прыехалі да нас пяць «партызан» на конях: Іван Зайцаў (камандзір атрада імя Панамарэнкі, а са студзеня 1944 года намеснік камандзіра брыгады імя Ракасоўскага), Пётр Бухарэўскі (мянушка «Чубаты», начальнік штаба, працягваў «партызаніць» да 1947 года), Іван Багуслаўскі, (мянушка «Сібірак» — С.Ё.) і яшчэ двое. А бацька ляжаў на ложку, адпачываў. Газету ці кнігу чытаў, не памятаю ўжо. Мы прыбеглі ўсе ў хату. А ў нас хрысціны былі – на стале гарэлка стаяла. Пеця, як зайшоў у хату, адразу за стол сеў, выпіў стакан гарэлкі. А астатнія «партызаны» на вуліцы стаялі, пад вокнамі, нібыта нешта вырашалі.


Васіль Струпавец.

Пеця забраў са стала мой ножык у кішэню. Я стаў прасіць: – Дзядзя Пеця, аддайце ножык! — А он тебе больше не понадобится, — кажа ён.

Падняўся бацька. У яго Пеця забраў пашпарты і пайшоў на вуліцу. Хвіліны тры нікога не было... Заходзіць у хату Зайцаў з кулямётам і Ваня «Сібірак» з вінтоўкай. Пеця застаўся на вуліцы. Сказалі яны на нас брыдка, матам, сагналі ўсіх у вугал хаты.

– *К стенке!* – крычаць. І ўцячы няма куды – за вокнамі нас чакаюць... Адным словам, сталі мы развітвацца, а ён нешта з кулямётам капаецца. Я яшчэ сказаў бацьку: *«Тата, ды яны шуцяць!»* – *«Сынок, бандыты не шуцяць», — адказаў ён.* Бацька мой гусарам быў, служыў у царскай ахове, меў тры георгіеўскія крыжы. Ён мог абараняцца і кулямёт адабраць, каб не я. Я яму перашкодзіў, калі кінуўся на шыю... Зайцаў страляў з кулямёта. Першым быў забіты бацька, пасля разрыўная куля трапіла ў галаву маме, некалькі куль увайшло ў мяне... Я не згубіў прытомнасці. Я бачыў, як яны запальвалі паперу на твары ў бацькі, як ботамі разбівалі галаву маёй маленькай сястрычцы (яна была яшчэ жывая), як дабівалі штыкамі і прыкладамі маіх братоў. Мне прыкладам дзве рабрыны зламалі. «Партызаны» былі п'яныя, інакш мяне забілі б. Пасля яны вынеслі з хаты ўсё, што можна было і падпалілі яе знутры.

Не ведаю, як Бог даў мне цярпення і сіл, каб перажыць усё гэта... Памятаю, як яны выходзілі, Зайцаў сказаў: «Пусть б... коптятся».

Цяжка паранены Струпавец здолеў патушыць агонь і выпаўзці на вуліцу. Толькі раніцай яго знайшлі суседзі і адвезлі, разам з параненым братам Аркадзем, у слонімскую бальніцу. Там яму зрабілі некалькі аперацый. Ён выжыў, але застаўся на ўсё жыццё інвалідам.

Тады да яго ў бальніцу часта прыходзілі аднавяскоўцы. Ад іх ён даведаўся, што бацька, маці, два брата і сястра былі пахаваныя, але «партызаны» вельмі злаваліся, што засталіся жывыя сведкі. Пасля таго сведкаў яны ўжо не пакідалі – стралялі людзей у патыліцу... А Праскоўі Данільчык і яе 13-гадоваму сыну, напрыклад, звязалі рукі дротам і кінулі ў калодзеж.

Была расстраляна і сям'я Турукоў. Перад расстрэлам «партызаны» гвалтавалі 17-гадовую Іру, а пасля прымушалі яе іграць на гітары. «Павесяліўшыся», каты паставілі ўсіх да сценкі...

— Ведалі мы, што Зайцаў камандаваў гэтым атрадам, — распавядае 73-гадовы жыхар Якімавіч Сцяпан Сільвестравіч Данільчык. - Былі ў нас партызаны «марозаўцы», «пракопаўцы». Дык гэтыя прыязджалі, ставілі міны на чыгунцы, а «зайцаўцы» — нічога. А «партызанамі» зваліся. Яны забілі ў вёсцы 45 чалавек, а немцы толькі двух.

А калі немцы адступілі, «партызаны» у Нагуевічах спалілі мост. Так яны сустрэлі Чырвоную Армію...

(Працяг на стар. 4)


Іван Зайцаў


**На здымку:** Надзея Афанасьеўна Астапчык (злева), закатаваная «партызанамі», яе дачка Вера, якая цяпер жыве ў Гомелі, і Яўгенія Афанасьеўна Швайдзюк.

**ТАЯМНІЦЫ** *Клады земли Слонимской*

## След Древнего Рима

Как-то осенью, преподаватель техникума Владимир Полещук возвращался с охоты. Три утки лежали в ягдташе, охоту можно было считать удачной. И хоть усталость брала своё, он не поленился поднять с земли чёрный металлический кружок. Когда Владимир его потёр об одежду – металл заблестел и на обеих сторонах выступили барельефы лиц и надписи. Так кружок превратился в серебряный динарий – древнеримскую монету, которая отчеканена в период правления императора Траяна (98–117 годы нашей эры).

На лицевой стороне найденного динария был портрет самого Траяна, а вокруг него надпись с перечислением титулов императора. Траян на монетах часто прославлял свои победы над германцами, даками и другими племенами.

В монографии известного нумизмата В. Кропоткина имеется упоминание о кладе динариев, обнаруженном при распашке поля у деревни Орловичи Слонимского уезда в 1887 году. Кроме монет, клад содержал пять бусин, в том числе и янтарную.

Возможно эти монеты утеряли торговцы. Раньше их путь лежал с юга на север, по Западному Бугу, Висле, затем в низовьях Вислы он поворачивал на Нёман. В устье Нёмана римские купцы могли заплывать с моря.

Зимой и летом в те далёкие времена, из-за непроходимых лесов и болот, основной торговой артерией в здешних местах оставалась река Щара.

Динарий Траяна был передан в отдел археологии Института истории АН Беларуси.

**Игорь ПОДГОРОДЕЦКИЙ**

**Горад** *Маладыя таленты*

## ЦЫГАН СПЯВАЕ ПА-БЕЛАРУСКУ



Аляксандр Звяровіч – цыган па нацыянальнасці. Яшчэ са школы марыў спяваць, хаця многія пасмейваліся з яго, нават здзекаваліся, не ўспрымалі ўсур'ёз імкненні душы юнака. Аднак упарты хлопец усё роўна спяваў: спачатку ў школьным хоры, потым — у цыганскім ансамблі, што існаваў пры Доме дзіцячай і юнацкай творчасці. Былі побач з ім і шчырыя настаўнікі, якія бачылі яго здольнасці.

Два гады назад вядомы беларускі маэстра Міхаіл Фінберг праводзіў конкурсны адбор на ўдзел у музычным фестывалі «Мінск-95». Тады Аляксандру ніхто не дапамог патрапіць на конкурс. Ён паехаў сам, прыхапіўшы з сабою старэнькі партатыўны магнітафон, на які запісаў фанаграму. І што вы думаеце: сярод пяці адабраных кандыдатур аказаўся і Аляксандр Звяровіч. Многія слонімскія спецыялісты па музыцы нават не паверылі ў ягоную перамогу. А для Аляксандра гэта быў першы поспех.

Потым былі фестывалі: у Лідзе — «Чароўны мікрафон», у Гродне – «Песні над Нёманам» і «Зорная ростань», на якіх ён атрымаў Гран-пры і спецыяльны прыз публікі.

Цяпер Аляксандр вучыцца ў Гродзенскім вучылішчы мастацтваў і адначасова працуе ў Беларускім тэатры эстрады ў майстэрні кампазітара Алега Елісеенкава. У бліжэйшы час ён прыме ўдзел у Міжнародным конкурсе «Даўсы-Голас Азіі», што пройдзе ў Казахстане, і ў польскім фестывалі "Мальва".

**Сяргей ЧЫГРЫН**

**ЮРЫДЫЧНАЯ КАНСУЛЬТАЦЫЯ**

### Красный свет – хода нет

Уличные штрафы - самые низкие во всём Административном кодексе. Нарушение пешеходами правил дорожного движения, вроде неподчинения сигналам светофора, перехода проезжей части в неустановленном месте, несоблюдение требований дорожных знаков и т. п. влечёт предупреждение или наложение штрафа в размере 0,05 минимальной заработной платы (МЗП). Если всё это создало аварийную ситуацию, то штраф возрастёт от 0,1 до 0,25 МЗП, а если нарушение повлекло лёгкие телесные повреждения или материальный ущерб - придётся заплатить от 0,5 до 1,5 МЗП.

Не стоит забывать, что умышленное повреждение или уничтожение телефонов - автоматов стоит от 5 до 10 МЗП. В такую же сумму обойдётся уничтожение или повреждение деревьев, кустарников, цветников, газонов (для должностных лиц - до 15 МЗП).




### Накладный мат

Помните, что мелкое хищение государственного либо общественного имущества (стоимостью до 1 МЗП) влечёт наложение штрафа в размере от 2 до 5 МЗП или исправительные работы сроком от 1 до 2 месяцев с удержанием 20 процентов заработка.

Мелкое хулиганство, т. е. нецензурная брань в общественных местах, оскорбительное приставание к гражданам и другие подобные действия могут привести к уплате штрафа до 2 МЗП или к исправительным работам на срок до 2 месяцев с удержанием 20 процентов заработка. А если по обстоятельствам дела с учётом личности нарушителя (индивидуальный подход!) применение этих мер будет признано недостаточным — обеспечен арест до 15 суток.

### Берегись гостя без паспорта

Проживание без паспорта и прописки повлечёт за собой предупреждение или наложение штрафа в размере до 3 МЗП. На такую же сумму может быть оштрафован хозяин дома или квартиры, который пустил к себе пожить человека без паспорта.

Приём на работу без паспорта либо проживающих без паспорта обойдётся должностным лицам вначале в штраф до 5 МЗП, при повторном нарушении в течение года - до 10 МЗП.

**Роман КОВАЛЁВ**

# ШТО ЯНЫ ВЫРАБЛЯЛІ!

Далей Васіль Струпавец кажа:

– Я дабіваўся, каб гэтых бандытаў судзілі (Зайцаў і Багуслаўскі пасля вайны жылі ў Слоніме. Зайцаў лічыўся ў горадзе адным з шаноўных ветэранаў вайны). З пяці расстраляных сямей я застаўся адзін. Быў у Хрушчова. Ён паабяцаў разабрацца. Прыязджаў да мяне палкоўнік КДБ з Мінска. Гаворыць мне, што Зайцаў у бальніцы ляжыць, а Багуслаўскі недзе на рыбалцы, яго не знайшлі... І гэта мне гаварыў палкоўнік КДБ! Я не вытрымаў, кажу: «Я сам тады яго заб'ю!» Адказвае: «Отвечать будешь». Ну, дык давайце іх судзіць, народным судом, Зайцаў жа не адзін такі»! – кажу. Палкоўнік толькі сказаў: «Твоё дело». Потым я яшчэ восем гадоў змагаўся.

Усё ж некаторыя злачынцы з гэтай банды былі пакараныя. У ліпені 1944 года, калі ўжо немцы ўцяклі, 6 «партызан» на чале з Азановічам прыйшлі ў вёску па трафеі. Не ведаў ён, што ў вёсцы ўжо быў аддзел Чырвонай Арміі. Людзі звярнуліся да афіцэра і паказалі на бандыта і забойцу. Салдаты затрымалі Азановіча, раззброілі яго і, пасля кароткага суда, расстралялі.

А яго «сувязная» Ніна Санько пабегла ў лес і крычала: «Цякайце, Чырвоная Армія прыйшла, Азановіча забілі!».

Я, Струпавец Васіль Васілевіч, 1923 г. нар., ураджэнец вескі Якімавічы Слонімскага раену, пацвярджаю, што усе факты, прыведзеныя Сяргеям Яршом у артыкуле "Што яны выраблялі!" /Наша Ніва, 10 сакавіка 1997 г./ адпавядаюць сапраўднасці. Злачынствы над маей сям'ей, нада мной асабіста і над маімі аднавяскоуцамі здзяйснялі партызаны савецкага атрада імя Панамарэнкі: Іван Зайцау, камандзір атрада; Петр Бухарэускі, камандзір роты; Іван Багуслаускі, Азановіч – асабісты ды іншыя. Прыведзеныя у газетнай публікацыі мае словы я гатовы пацвердзіць у судзе, калі у гэтым будзе патрэба.

Маю сям'ю расстрэльвалі: і. Зайцау і і. Багуслаускі у красавіку 1943 г. Тады загінулі: бацька – Васіль Рыгоравіч, 1893 г.н., маці – Соф'я Ільінічна, 1910 г.н., браты: Коля, 1930 г.н., Міша, 1932 г.н., сястра Рая, 1943 г.н...

02.06.1997 г. [подпіс] Струпавец В. В.

Нотариус свидетельствуя подлинность подписи не удостоверяет фактов изложенных в данном документе

3 июня 1997 года я, Бишкевич Л.П. государственный нотариус г. Слонима государственной нотариальной конторы свидетельствую подлинность подписи г. Струпавец Василий Васильевич которая сделана в моем присутствии. Личность подписавшего документ установлена.

Зарегистрировано в реестре за № 3-925

Взыскано государственной пошлины 0-00-05

Государственный нотариус [подпіс]

Гродненская областная нотариальная контора Республики Беларусь гор. Слонима

## УСПОМНІМ УСІХ ПАЙМЕННА

*Жыхары вёскі Якімавічы і бліжэйшых хутароў, якія сталі ахвярамі тэрору «партызанаў»*

**СПІС НЯПОЎНЫ**

**АСТАПЧЫК** Надзея Афанасьеўна, мела каля 36 гадоў - *зверскі закатаваная.*

**ДАНІЛЬЧЫК** Праскоўя, яе 12-гадовы сын Сяргей - *жывымі кінутыя ў калодзеж.*

**ЖЫЛІНСКІ Аляксандр** (мянушка «Прымак»), меў каля 40 гадоў - *забраны ў лес, расстраляны.*

Браты **КАСАБУЦКІЯ:** Ян, Франк, Юзік з 15-гадовым сынам - забраныя ў лес і забітыя.

**КАСАБУЦКІЯ**, гаспадар і гаспадыня, мелі каля 60 гадоў - *расстраляныя і спаленыя ў хаце.*

Сям'я **СТРУПАЎЦОЎ** — 5 чалавек (*расстраляныя ў лютым 1943 г.*): Мікалай - гаспадар, 28 гадоў, Вера — гаспадыня, 21-23 гады, маці Мікалая, дзве дзяўчынкі (малодшая — Таіска) - 1,5-3 гады.

Сям'я **СТРУПАЎЦОЎ** — 6 чалавек (*расстраляныя ў красавіку 1943 г.*): Васіль Рыгоравіч — гаспадар, 1893 г. н., Соф'я Ільінічна - гаспадыня, 1910 г. н., дзеці: Коля - 1930 г. н., Міша — 1932 г. н., Аркадзь - 1936 г. н. (быў цяжка паранены, пасля вайны падарваўся на міне), Рая - 1943 г. н., было 5 тыдняў.

Сям'я **СТРУПАЎЦОЎ** - 4 чалавекі (*забітыя і спаленыя ў хаце на пачатку 1943 г.*): Гаспадар (вулічная мянушка «Воўк»), гаспадыня, сын, дачка,

Сям'я **ТУРУКОЎ** — 4 чалавекі (*расстраляныя летам 1943 г.*): Аляксандр - гаспадар, Вікторыя — гаспадыня, Іра - дачка, 17 гадоў *(перад расстрэлам згвалтаваная групай «партызан»),* Генюсь - сын, 13 гадоў.

Сям'я **УТЛІКАЎ**- 4 чалавекі: Марыя — гаспадыня, яе сястра, маці гаспадыні -— Марціна, сын гаспадыні Антон, 1927 г. н. - сям'ю завезлі ў лес і расстралялі.

**Асоба** *Нашы землякі*

# Гісторык з Шылавіч

5 жніўня ў нашага земляка – кандыдата гістарычных навук Віталя Скалабана – юбілей. Ён святкуе сваё 50-годдзе.

Віталь Скалабан нарадзіўся ў 1947 годзе ў Шылавічах, дзе яго бацька-франтавік працаваў настаўнікам і дырэктарам сямігадовай школы. Віталь Уладзіміравіч добра памятае Шылавіцкую школу, бо чатыры гады там жыла сям'я Скалабанаў. У той час у школе паказвалі кіно, якое прывозілі са Слоніма. Гэта было першае знаёмства з кінематографам будучага сцэнарыста дакументальных фільмаў.

Пасля заканчэння гістфака Ленінградскага універсітэта і службы ў войску, Віталь Скалабан працаваў у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя», прайшоў шлях ад малодшага рэдактара да загадчыка рэдакцыі гісторыі Беларусі. Цяпер ён вывучае гісторыю першага Усебеларускага з'езда 1917 года і пытанні беларускай нацыянальнай сімволікі. З 1995 года Скалабан працуе ў Беларускім інстытуце дакументазнаўства і архіўнай справы. Жанаты, мае двух сыноў.

Віталь Скалабан плануе правесці ў Слоніме Хлябцэвіцкія чытанні. Нагадаем, што Яўген Хлябцэвіч, ураджэнец Жыровіч, вядомы бібліятэказнавец, журналіст, сябра Янкі Купалы.

**С. Ё.**

**На здымку:** Віталь Скалабан (злева) і беларускі гісторык з Масквы Аляксей Каўка.

## НАШ КАЛЯНДАР

**2 ЖНІЎНЯ 1794 года** ў ваколіцах Слоніма адбылася бітва паміж войскам Часовай рады Вялікага княства Літоўскага, якім камандаваў генерал Сераkоўскі, і рускай арміяй.

У гэты ж дзень, у 1833 годзе, быў павешаны ў Гродне, пасля прыгавору рускага ваенна-палявога суда, камандзір беларускага паўстанцкага атрада наш зямляк Міхал Валовіч. Баючыся Валовіча і мёртвага, улады загадалі цела яго таемна перавезці і ноччу закапаць у вапнавым кар'еры.

**3 ЖНІЎНЯ 1944 года** ў Слоніме аднавіўся рух на чыгунцы. Першы цягнік прыбыў з Баранавіч у Слонім у ноч з 2 на 3 жніўня. На адбудове чыгункі ў Слонімскім раёне працавала каля 1000 чалавек.

**5 ЖНІЎНЯ 1938 года** ў Мінску быў расстраляны сталінскімі катамі Мітрафан Тамільчык, вучоны-фізік, выкладчык Беларускага політэхнічнага інстытута, ураджэнец вёскі Хадзявічы.

У гэты ж дзень, у 1899 годзе ў вёсцы Сасноўка, нарадзіўся Барыс Пішчыкевіч, удзельнік грамадзянскай і Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза.

**6 ЖНІЎНЯ 1884 года** ў Жыровічах нарадзіўся Яўген Хлябцэвіч, беларускі бібліятэказнавец, бібліёграф, журналіст. Памёр у 1953 годзе.

Падрыхтаваў **Сяргей ЁРШ**

**КОНКУРС** *А яшчэ быў такі выпадак...*

## ПРА СМЕЛУЮ КАРОВУ І ГАЛОДНАГА ВАЎКА

Гэты выпадак здарыўся сорак гадоў таму назад. Мая маці вярталася дамоў, на хутар Дудалава, што паблізу вёскі Савічы. Пяць кіламетраў ёй трэба было ісці лесам. Па дарозе яна ўбачыла ваўка, які ішоў за ёю. Маці вельмі спалохалася, але ўсё ж здолела рухацца далей і для смеласці ўзяла ў рукі кій. Шэры драпежнік правёў яе да самай хаты, але не зачапіў.

У хаце мама расказвала нам пра небяспечнае спатканне ў лесе. Калі мы паглядзелі ў акно, дык убачылі там вялікага старога ваўка. Ён сядзеў на панадворку і глядзеў на нас. Потым воўк пахадзіў вакол хаты і павярнуў у лес.

Праз некалькі дзён воўк зноў прыйшоў на хутар. Відаць, ён быў вельмі галодны, бо напаў на нашу самую вялікую авечку. Схапіў яе, але не змог закінуць сабе на спіну. Тады кемлівы воўк лёг на зямлю і перакуліўся, перакінуўшы праз сябе сваю здабычу. Так, з авечкай, перакульваючыся, спадзяваўся ён дабрацца да лесу, што быў побач. Але шлях яму перагарадзіла карова. Выставіўшы наперад рогі, яна атакавала шэрага. Той, кінуўшы здабычу, вымушаны быў уцякаць, ратуючы сваё жыццё. Больш на наш хутар воўк не заходзіў.

**Кацярына ЁРШ, 57 гадоў.**



**ПАРАДЫ**

*Доктара Калінічава*

## АСТРАЛЬНЫЕ ТРАВЫ

Сегодня предлагаю для больных систему траволечения, разработанную Лидией Хивинцевой. Её наблюдения показали, что наибольший лечебный эффект оказывают астральные травы. Она выделила 12 групп растений (нелишне напомнить, что лучше помогают травы той местности, в которой человек живёт) и советует пользоваться именно теми, которые соответствуют вашему знаку Зодиака.

**Водолей:** дягиль лекарственный, донник, живокость царская, камнеломка, кактус плетевидный, лопушник большой, молочай солнцегляд, маргаритка, малина, огуречная трава, репешок, смоковница (лист и ягоды), стенница лекарственная, укроп, тмин римский, цикута, шалфей дикий, ясень (цветы).

**Рыбы:** буквица, безвременник осенний, брусничник белый, вишня, гранат, земляника, лимон, мак самосейка, наперстянка, портулак, репа, ревень.

**Овен:** агарник, божье дерево, бузина вонючая, белена, бирючина, вероника, горечавка полевая, гранат, дубровник, живокость царская, зверобой, кресс-салат, кардамон, клещевина, майоран, мята, мать-и-мачеха, очанка(листья), орех мускатный, пион, подорожник, розмарин, спаржа, цикорий, чернобыльник (полынь), чернокорень, чистяк, шалфей.

**Телец:** барвинок, воловник, валерианы корень, дуб, дубровник, купена лекарственная, лилия, нарцисс, норичник, плющ, проскурник дикий, репешок, роза, чистотел (большой), ясень (дерево).

**Близнецы:** аронник пятнистый, живокость большая, клещевина, латук, лилия водяная, лук порей, лопушник большой, мать-и-мачеха, огуречная трава, петрушка, ромашка римская, терновник, укроп, тмин, щавель.

**Рак:** бобы всевозможные, зверобой, ива, камнеломка, капуста, норичник, огурец, петрушка, пион, борей дикий, портулак, шпажник.

**Лев:** базилик, василёк, горечавка полевая, дягиль лекарственный, кукушкины слёзки, лавр, лаванда, лютик едкий, мята, подорожник, сельдерий, тимьян, чертополох, чадер, шафран.

**Дева:** анис настоящий, аир, дуб, дурнишник, лавр, медвежьи ушки, рожь, свекла, слива, тмин римский, цикорий, шиповник, шалфей, щавель, яблоня.

**Весы:** вербена, касатник, камнеломка, козлобородник, курослеп, липа, норичник, орешник, проскурник дикий, первоцвет, портулак, резак степной, ромашка римская, рута, самшит, чистотел большой.

**Скорпион:** аронник пятнистый, беладонна, капуста, кизил, курослеп, кукушкины слёзы, лук резанец, лук порей, нарцисс, рябина, норичник, репа, свекла, сливовое дерево, терновник(плоды), яблоня(дерево), ясень(дерево).

**Стрелец:** алоэ, белена, берёза, дягиль лесной, жовокость царская, ива(листья), кресс-салат, лук, огурец, орех грецкий, папоротник мужской, плющ, редька, чеснок, частик, шафран.

**Козерог:** белена, борец синий, мандрагора.

И ещё. Следует принимать травы отдельно и избегать при составлении микстур их большого числа трав, так как есть растения-антагонисты.


Газета Слонімская

*Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г. Заснавальнік і рэдактар Віктар Валадашчук. Адрас рэдакцыі: 231800, г. Слонім, вул.Брэсцкая, 109–1–12. Тэл. 5–24–12.*

*© «Газета Слонімская». Спасылка на «Газету Слонімскую» абавязковая. Падпісана да друку 31 ліпеня 1997. Час падпісання 8:00. Падпісны індэкс 64042.*

*Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80. Наклад 5.100 экз. Заказ № 1.731.*